*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***


# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 30 (569) 7 ЖНІЎНЯ 2002 г.**





## Беларускай газеце “Звязда” - 85 гадоў

Шаноўнае спадарства!

Таварыства беларускай мовы сардэчна віншуе калектыў рэдакцыі з юбілеем – 85-годдзем ад часу выхаду ў свет першага нумара газеты. Прыемна, што “Звязда”, як старэйшае беларускамоўнае дзяржаўнае выданне, у сённяшняй інфармацыйнай прасторы вылучаецца сваёй адметнасцю і папулярнасцю. Кожны нумар газеты – гэта і шматфарбная палітра жыцця нашай краіны, і сусрэча з родным словам, якое яна пранесла праз дзесяцігоддзі.

ТБМ удзячнае калектыву рэдакцыі за шчырую і сумленную працу на карысць Бацькаўшчыны. Жадаем Вам аптымізму і творчага натхнення. Хай Ваша чуйнае вуха і чуллівае сэдца дапамагае моцна трымаць вострае журналісцкае пяро на пульсе хуткаплыннага часу.

**Сакратарыят ТБМ.**

**Уладзіміру Наркевічу,**
**галоўнаму рэдактару газеты “Звязда”**

Паважаны Уладзімір Барысавіч!

Таварыства беларускай мовы віншуе Вас, галоўнага рэдактара шаноўнага выдання, з 85-годдзем ад часу заснавання газеты. Для Вас асабіста гэты юбілей – двайное свята. Бо Ваша жыццё цягам 25 гадоў цесна знітаванае з газетай. Ваш багаты досвед журналіста і кіраўніка – зарука папулярнасці “Звязды” ў нашай краіне. Жадаем Вам зладжанага калектыву, удзячных чытачоў і шмат падпісантаў. Хай здзейсняцца ўсе Вашы творчыя задумы. Доўгага і шчаслівага жыцця Вам і Вашай газеце.

**Старшыня ГА “ТБМ” імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

## Грамадская імпрэза ў гонар Ігната Дамейкі

31 ліпеня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны правяло грамадскую імпрэзу, прысвечаную 200–годдзю з дня нараджэння Ігната Дамейкі. На імпрэзе выступілі прафесар Адам Мальдзіс, кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў, краязнавец і журналіст Здзіслаў Ціцька. На імпрэзе была прынятая ўхвала.

### Ухвала
### сходу грамадскасці г. Менска, прысвечанага 200-годдзю ад часу нараджэння Ігната Дамейкі

Споўнілася 200 гадоў ад часу нараджэння аднаго з самых слынных сыноў беларускай зямлі Ігната Дамейкі, сябра Адама Міцкевіча і Яна Чачота. Нарадзіўся Ігнат Дамейка 31 ліпеня 1802 г. у маёнтку Мядзведка Наваградскага павету. Вучыўся ў Шчучыне і Віленскім універсітэце. У адказ на русіфікатарскую палітыку малады Ігнат Дамейка прыняў актыўны ўдзел у патрыятычных студэнцкіх згуртаваннях, а пазней – у нацыянальна-вызвольным паўстанні 1831 года. З-за пераследу ўладамі малады паўстанец апынуўся ў Парыжы, дзе скончыў Горную школу. У 1838 г. быў запрошаны Чылійскім урадам дзеля выкладання ў Горнай школе і пашырэння навукі ў Чылі.

На другой сваёй радзіме Ігнат Дамейка дасягнуў найвышэйшых навуковых вышынь, прызнання чылійскага ўрада і народа. Ён стаў нацыянальным героем Чылі. Ягоным імем названы вуліцы, плошчы, горад і порт, горны хрыбет і вяршыня, зорка, кветкау3ю.. Яму пастаўлены помнікі ў заакіян-скай краіне.

Улічваючы вялікі ўклад Ігната Дамейкі ў сусветную навуку і культуру сход грамадскасці Менска прапануе:

1. Менскаму гарадскому савету прысвоіць імя Ігната Дамейкі адной з вуліц беларускай сталіцы, бібліятэцы, каледжу, ліцэю, Інстытуту геалогіі НАН Беларусі.
2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь паставіць у Менску помнік Ігнату Дамейку.
3. Геаграфічнаму, біялагічнаму і хімічнаму факультэтам БДУ заснаваць стыпендыю імя Ігната Дамейкі.
4. Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі заснаваць прэмію, медаль і дыплом імя Ігната Дамейкі.
5. Міністэрству культуры прафінансаваць выданне кнігі ўспамінаў Ігната Дамейкі.
6. Таварыству беларускай мовы аказаць дапамогу Карэліцкай бібліятэцы ў папаўненні яе фондаў беларускай мастацкай літаратурай.

**31 ліпеня 2002 г.**

*Сядзіба Таварыства*
*беларускай мовы*
*г. Менск, вул. Румянцава, 13.*

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

Выкладчыкі і студэнты кафедраў беларускай мовы і беларускай літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта:

1. Клімуць С. В. - 500 р.
2. Шубадзёрава А. М. - 500 р.
3. Дзянісаў У. С. - 1000 р.
4. Шацура С. У. - 500 р.
5. Ячмянёва І. М. - 500 р.
6. Аляксейчыкава Н. Д. - 500 р.
7. Юдко А. М. - 500р.
8. Лаўшук А. С - 500 р.
9. Абабурка М. В. - 1000 р.
10. Рагаўцоў В. І. - 500 р.
11. Шаруха Т. М. - 500 р.
12. Казімірская Т. А. - 500 р.
13. Саўчанка В. М. - 500 р.
14. Дысянкова Л. В. - 500 р.
15. Дзячэня Л. А. - 500 р.
16. Клімуць Я. І. - 500 р.
17. Украінка С. С - 500 р.
18. Кулебянкова І. М. - 500 р.
19. Церахава Ж. С - 500 р.
20. Караткевіч В. І. - 500 р.
21. Караткоў М. М. - 500 р.
22. Шарапава А. В - 500 р.
23. Камкоў П. М - 500 р.
24. Лебедзева Н. М. - 500 р.
25. Даніленка С. І. - 500 р.
26. Чмарава М. І - 500 р.
27. Макарэвіч А. М. - 500 р.
28. Бараноўская Л. Г. - 500 р.
29. Еўмянькоў В. І. - 500 р.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Адаму Мальдзісу – 70



### Вельмішаноўны Адам Язэпавіч!

Таварыства беларускай мовы сардэчна віншуе Вас, вядомага ў свеце грамадскага дзеяча, літаратуразнаўца, крытыка, празаіка і публіцыста з юбілеем.

У Вашай асобе ўдала спалучаецца талент энцыклапедыста, знанага навукоўца і адметнага літаратара. Вашыя кнігі і шмат якія публікацыі адхінулі заслону часу, адкрылі маладзейшаму пакаленню таямніцы старажытных сховішчаў. Ваша ахвярная дзейнасць па захаванні і адраджэнні беларушчыны – прыклад бескарыслівага служэння Бацькаўшчыне.

ТБМ ганарыцца, што ў Вашай асобе мае аднога з найактыўнейшых сяброў. Жадаем Вам моцнага здароўя дзеля здзяйснення шматлікіх творчых задумаў.

**Сакратарыят ТБМ.**

*(Артыкул пра Адама Мальдзіса чытайце на ст. 3.)*

## Маркі да 120-годдзя з дня нараджэння народных песняроў

БЕЛАРУСЬ 500 ЯНКА КУПАЛА ЯКУБ КОЛАС 120 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ 500 БЕЛАРУСЬ

Да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа выдадзены мастацкі блок з двух марак. Афіцыйнае гашэнне блока адбылося на купалаўскім свяце ў Вязынцы.



№ 30 (569) 7 ЖНІЎНЯ 2002 г. НАША СЛОВА

# Тэхналогія беларускасці ў Беларусі

***По матэрыялах "круглых сталоў" "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар", "Мова ў сродках масавай інфармацыі", праведзеных 20.05.2002 і 17.06.2002.***

Паважанае спадарства, гаварыць пра тэхналогію беларускасці ў Беларусі надзвычай складана з прычыны таго, што гэтая тэма падымаецца бадай упершыню. На сёння мы маем пэўныя напрацоўкі толькі ў лінгвістычнай сферы ў выглядзе праекту "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі", прапанаванай для абмеркавання грамадскасці краіны Таварыствам беларускай мовы ў 2001 годзе, дзе ёсць адмысловы раздзел "Інфармацыйныя тэхналогіі". І таму, Таварыства беларускай мовы як арганізатар "круглага стала" на тэму: "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар" мела спадзеў, што пытанні ўкаранення беларускай мовы ў сучасных кампутарных тэхналогіях будуць вельмі актуальнымі і цікавымі не толькі для грамадскіх арганізацый, але і для органаў дзяржаўнага кіравання. Але на вялікі жаль, як высветлілася на пасяджэнні "круглага стала" уладныя структуры ад часу правядзення "моўнага" рэферэндуму 1995 года не праяўляюць аніякакага клопату пра функцыянаванне беларускай мовы ў сферы кампутарных тэхналогій. У сувязі са зменамі, унесенымі ў Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", функцыянаванне беларускай мовы сталася неабавязковым у справаводстве нават у сферы дзяржаўнага кіравання. Фактычна быў узяты курс на выкарыстанне гатовых распрацовак расійскіх навукоўцаў у галіне кампутарнага праграмавання, што па-іншаму, як "паразітаванне" на рускай мове, - не назавеш.

Але ж беларуская мова павінна паўнавартасна функцыянаваць у сусветнай кіберпрасторы, у чым выказвае сваё зацікаўленне і Генеральная асамблея ЮНЭСКА. А клопат пра яе функцыянаванне, як пра дзяржаўную мову, павінна ўзяць на сябе наша дзяржава – Рэспубліка Беларусь. Аднак сітуацыя выглядае так, што падчас імклівага развіцця інфармацыйных тэхналогіяў ва ўсім свеце перад беларусамі ўзнікла рэальная пагроза спынення развіцця мовы і страты набыткаў беларускай літаратуры. У выступленнях удзельнікаў "круглага стала" адзначалася, што да гэтага часу, напрыклад, у кнігавыдавецкай галіне адсутнічаюць элементарныя інстументы, а менавіта: сістэмы карэкцыі арфаграфіі беларускіх тэкстаў, няма лінгвістычнай падтрымкі беларускай мовы ў праграмах для аптычнага распазнавання тэкстаў, няма (я падкрэсліваю няма!!!) адзінага стандарту кадыроўкі беларускіх літар "Ў", "І", "'". Дарэчы, толькі па гэтай прычыне з 1 студзеня 2003 года ўлік у пенсійным фондзе плануецца ажыццяўляць выключна на рускай мове, і 4,5 млн. жыхароў Беларусі будуць пазбаўленыя магчымасці карыстацца роднай беларускай мовай у сістэме сацыяльнага забеспячэння.

Удзельнікі "круглага стала" прынялі рэзалюцыю, якую Таварыства беларускай мовы накіравала разам з запытамі ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь, у Палату прадстаўнікоў, Нацыянальны сход Беларусі, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства адукацыі, Нацыянальную акадэмію навук Беларусі. Кожная з гэтых устаноў можа і абавязана клапаціцца пра выкарыстанне беларускай мовы ў кампутарных тэхналогіях. На жаль, мы атрымалі адказы толькі з 2-х міністэрстваў – інфармацыі і адукацыі, з якіх вынікае, што шаноўныя дзяржаўныя ведамствы і не збіраюцца рабіць канкрэтных захадаў па ўкараненні беларускай мовы ў кіберпрасторы. Так Міністэрства інфармацыі не можа стварыць цэнтр па захаванні электронных тэкстаў на беларускай мове з прычыны адсутнасці механізаму перадачы гэтых тэкстаў і неабходных фінасавых сродкаў. У той жа час у Інтэрнэце на рэсурсе "Беларуская палічка" змешчаны тысячы тэкстаў на беларускай мове. І зрабіў гэта беларускі студэнт, які вучыцца ў Аўстрыі. Гэты студэнт коштам уласнай стыпендыі здолеў выразаць фінансавы бок справы і знайсці механізмы перадачы тэкстаў прыватнымі выдавецтвамі. Дык няўжо Міністэрства інфармацыі не можа арганізаваць аналагічную працу хаця б з дзяржаўнымі выдавецтвамі. На жаль, у апараце Міністэрства інфармацыі няма кадраў, дасведчаных у кампутарных тэхналогіях. А Міністэрства адукацыі не можа падрыхтаваць адпаведных спецыялістаў, бо вывучэнне інфарматыкі, нават ў беларускіх школах, ажыццяўляецца толькі па-руску з выкарыстаннем нелакалізаваных да беларускай мовы праграм. Выйсце з гэтага становішча маглі б прапанаваць Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і Фонд інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь, але, на жаль, нашыя запыты да гэтых установаў засталіся без адказу.

Таму Таварыства беларускай мовы, не маючы спадзеву на ўладныя дзяржаўныя структуры, мэтанакіравана працуе над стварэннем грамадскай лабараторыі па пытаннях укаранення беларускай мовы ў сучасных кампутарных тэхналогіях. Пры гэтым вельмі спадзяёмся на дапамогу ЮНЭСКА, на праграмы гэтай міжнароднай арганізацыі, накіраваныя на падтрымку моў, што знаходзяцца на мяжы знікнення. Вось такая атрымліваецца "тэхналогія беларускасці" ў Беларусі, калі для ўратавання дзяржаўнай беларускай мовы трэба звяртацца па дапамогу да міжнародых арганізацыяў.

Вельмі вострыя праблемы ў сферы функцыянавання моў у сродках масавай інфармацыі ўзнялі 17 чэрвеня 2002 году ўдзельнікі "круглага стала" "Мова ў сродках масавай інфармацыі". Але "круглы стол" атрымаўся "паўкруглым", бо яго работу праігнаравалі прадстаўнікі парламенту, выканаўчай улады, Белдзяржтэлерадыёкампаніі, вядучых дзяржаўных інфармацыйных холдынгаў. У пасяджэнні бралі ўдзел прафесіяналы і грамадскія дзеячы, якім баліць за сённяшні стан дзяржаўнай беларускай мовы ў сучасных сродках масавай інфармацыі нашай краіны. Але іх слушныя думкі засталіся непачутымі тымі, хто ў адпаведнасці са сваёй дзяржаўнай пасадай павінен дбаць пра іх рэалізацыю. Прадстаўнікі дэпутацкага корпусу Беларусі (за выключэннем спадарыні Цыркун, якая, дарэчы, заўсёды выступала не па тэме "круглых сталоў", а разважала аб праблематыцы гендэрнай палітыкі ў Беларусі) цалкам ігнаравалі ўсе пасяджэнні, нягледзячы на тое, што настойліва запрашаліся арганізатарамі да ўдзелу ў дыскусіях. Паколькі менавіта ад дэпутатаў залежыць перагляд рэдакцыі Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які не стасуецца з канстытуцыйным палажэннем аб мовах і спарадзіў жахлівыя дэфармацыі ў моўнай палітыцы краіны. На падставе дзейнай рэдакцыі Закона немагчыма патрабаваць ад Дзяржтэлерадыёкампаніі забяспечання права беларускамоўнай супольнасці атрымліваць інфармацыю на беларускай мове. У той час у дэмакратычных краінах тэлебачанне выступае сродкам фармавання нацыянальнай самасвядомасці, задавальняе рознабаковыя духоўныя патрэбы грамадзян, спрыяе інтэлектуальнаму і эстэтычнаму ўзбагачэнню асобы, забяспечвае аператыўнае данясенне інфармацыі, неабходнай для ўсіх структур грамадзянскай супольнасці. На жаль, гэтыя задачы не выконвае тэлевізійнае вяшчанне ў Рэспубліцы Беларусь з прычыны дзяржаўнай манаполіі на стварэнне вяшчальных арганізацый, на тэхнічныя сродкі распаўсюду тэлевізійнага сігналу па тэрыторыі краіны, а таксама практыкі татальнага дзяржаўнага кантролю за зместам тэлевізійных праграм. Так сталася, што беларускі глядач трапіў пад аднабаковы уплыў сродкаў масавай інфармацыі Расійскай Федэрацыі. Ён пазбаўлены магчымасці знаёміцца са здабыткамі еўрапейскай і сусветнай культуры, а ўласнае тэлевяшчанне пастаянна дэградуе і страчвае рысы нацыянальнай адметнасці. Фактычна сучасны беларус, які жыве ў цэнтры Еўропы, знаходзіцца ў міжнароднай і ўнутранай інтэлектуальнай ізаляцыі.

Такі стан у сферы электронных СМІ падказала Таварыству беларускай мовы і некаторым іншым грамдскім арганізацыям распачаць працу па стварэнні міжнароднага этнакультурнага беларускага спадарожнікавага тэлеканала. На нашу думку, гэты канал зможа задаволіць культурніцкія патрэбы беларусаў, якія жывуць па-за межамі краіны. А жыхары Беларусі атрымаюць магчымасць карыстацца аб'ектыўнай, пазбаўленай дзяржаўнай цэнзуры, інфармацыяй на роднай беларускай мове.

З нагоды дыскрымінацыйнага становішча беларускай мовы ў электронных сродках масавай інфармацыі Беларусі шэраг грамадскіх арганізацый звяртаецца да Генеральнай асамблеі ЮНЭСКА з просьбай разгледзець лінгвістычную сітуацыю, што склалася ў нашай краіне, і аказаць дапамогу ў справе абароны і захавання беларускай мовы, а таксама стварэння ў Рэспубліцы Беларусь умоў для свабоднага развіцця і функцыянавання родных моваў усіх нацыянальных меншасцяў.

На нашу думку, варта ўзгадаць уласную гісторыю, каб зразумець, якую тэхналогію беларускасці ў Беларусі неабходна распрацоўваць і ажыццяўляць цяпер. Дазволім сабе зазірнуць у XVIII стагоддзе і прывесці з гэтай нагоды вытрымку з ліста расійскай імператрыцы Кацярыны да свайго сына Паўла пра яе ўражанні ад сустрэчы з Беларуссю: "... тянутся всё холмы да холмики, между которыми множество озёр, что очень красиво; здесь население самое разнородное, сплошь да рядом обитают православные, католики, униаты, евреи, русские, поляки, чухонцы, немцы, курляндцы, словом не увидишь двух крестьян одинаково одетых и говорящих правильно на одном наречии; смешение племён и наречий напоминает Вавилонское столпотворение". Разнастайнасць, якую пабачыла расійская царыца, была недаспадобы, як кіраўнікам Паўночна-Заходняга краю Расійскай Імперыі, так і кіраўнікам Савецкай Беларусі. На жаль, палітыка, накіраваная на нівеліроўку нацыянальных, культурных і рэлігійных адметнасцяў народаў Беларусі, працягваецца. Статус беларускай мовы і згубленая разнастайнасць моў і культур нацыянальных супольнасцяў у нашай краіне мусіць быць узноўлена.

*Сяргей Кручкоў, намеснік старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".*

# "Родная" мова?

У наш час многія людзі падымаюць у сродках масавай інфармацыі праблему беларускай мовы ў грамдстве. Асабіста мяне зацікавіў такі аспект гэтай праблемы: ці лічаць беларусы, асабліва моладзь, беларускую мову роднай? З гэтым пытаннем я і звярнулася да сваіх аднакласнікаў.

**Юля (17 гадоў):**

-Родная мова – гэта тая мова, на якой ты гаворыш, таму для мяне родная мова – руская. Але беларуская мова мне таксама падабаецца. Я люблю чытаць на ёй, я б гаварыла па-беларуску, калі б на ёй гаварылі ўсе.

**Іна (18 гадоў).**

- Я лічу беларускую мову цудоўнай, адной з самых лепшых, але руская мова бліжэй, мне лягчэй чытаць на ёй. Вядома, калі б усе гаварылі па-беларуску, я б таксама гаварыла на ёй. Але гэтага амаль ніхто не робіць, бо заўсёды цяжка пачынаць першым. Я разумею, што беларуская мова – мая родная, але для сэрца мне больш родная руская. Можа не столькі родная, колькі прывычная.

**Оля (17 гадоў).**

- Я не лічу беларускую мову роднай. На мой погляд, руская нашмат прыгажэйшая, і я яе люблю і лічу роднай.

**Аня (17 гадоў).**

- На мой погляд, мова набывае статус роднай, калі ёю карыстацца кожны дзень. На жаль, у наш час беларуская мова гучыць толькі на ўроках беларускай мовы і літаратуры, а ўвесь астатні час прысвечаны рускай мове. Калі давацць азначэнне беларускай мове, то я лічу, што правільна будзе назваць яе дзяржаўнай. Мне падабаецца гэтая мова, але размаўляць на ёй я не гатовая. Бясспрэчна, калі беларуская мова стане агульнаўжывальнай, то я буду на ёй размаўляць.

Вось якія думкі зараз у адзінаццакласнікаў. Праўда, не ва ўсіх. Вядома, можна навучыць чалавека гаварыць па-беларуску, але як навучыць яго любіць сваю мову, лічыць яе роднай? Зараз многія маладыя людзі нават не ведаюць пра існаванне беларускіх маладзёвых суполак, сябры якіх размаўляюць па-беларуску, актыўна ўдзельнічаць у жыцці сталіцы.

Калі чалавек адзін, яму цяжка выступіць супраць грамадства. Трэба стварыць больш прыдатныя ўмовы для людзей, якія хацелі б гаварыць па-беларуску, але пакуль не гатовыя да гэтага. Часта бачыш абвесткі з запрашэннем у розныя клубы, групы, але я ніколі не бачыла запрашэнні ў беларускмоўныя арганізацыі. Яны, вядома, існуюць, але інфармацыя пра іх не вельмі шырокаял.

Асабіста я лічу сваю мову роднай, люблю і паважаю яе, але не размаўляю на ёй са сваімі сябрамі, толькі дома з мамай. Чаму? Я, напэўна, і сама не адкажу на гэтае пытанне. Проста, відаць, не хачу быць "белай варонай". Хоць і разумею, што ў Беларусі менавіта белая варона гаворыць па-руску, а па-свойму размаўляюць чорныя.

*Юля Дзіцэвіч, навучэнка гімназіі-каледжа № 24.*

# Скарб - у падарунак музею



24 культавыя прадметы, выраблены ў маскоўскіх ювелірных майстэрнях у канцы XVIII - пачатку XIX стагоддзя, сталі набыткам Гомельскага абласнога краязнаўчага музея напярэдадні яго 80-годдзя. А адшукалі бліснуўшы раптам з-пад зямлі скарб будаўнікі новага санаторнага корпуса вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш" ва ўрочышчы Чонкі.

На здымку: галоўны захавальнік Гомельскага абласнога краязнаўчага музея Таццяна Шода і старшы навуковы супрацоўнік Ганна Краўцова са знойдзеным скарбам.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

# Ён малюе Беларусь

Велічэзнае палатно-карціна, на якім Францішак Скарына ў друкарні з лампадай, адухаўляе сядзібу грамадскага аб'яднання Таварыства беларускай мовы, імя якога яно носіць. Гэта твор мастака Алеся Цыркунова, яго падарунак пад час станаўлення арганізацыі. Ён душой і сэрцам успрыняў яе стварэнне пры поўнай рускамоўнай акупацыі краіны,



Алесь Цыркуноў

калі ў буйных гарадах і мястэчках не засталося ніводной беларускай школы. Дзеля того, каб навучаць па-беларуску, яму з Менску даводзілася вазіць дзіцятка ў прыгарадную школу, якую ён сам расшукаў. Урокі беларускасці Алесь атрымліваў ад сваіх бацькоў. Гэтыя ўрокі гінулі пад націскам распаўсюджанага рускамоўнага дыктату. Урок супраціву такому націску прыпаднесла ў Донецку настаўніца ўкраінскай мовы і літаратуры. Яна аднойчы наўпрост запытала чаму ён, беларус, не балакае па-беларуску. Сказала, што Беларусь мае надзвычай багатую гісторыю. Яе словы глыбока запалі юнаку ў душу і, як бачна, добра прарасло гэта зернетка.

Алесю давялося паспытаць савецкі дзетдом. Скончыў горную прафесійна-тэхнічную вучэльню, працаваў у шахтах Данбаса. Пасля войсковой службы – на Менскім аўтазаводзе. Невыказная цяга маляваць ды падахвочванні настаўнікаў, сяброў прывялі яго ў Менскі тэатральна-мастацкі інстытут, які поспяхова закончыў у 1976 годзе. У 1983 годзе стаў сябрам Союза мастакоў. Не любіць Алесь расказваць пра сябе, кажучы, лепей хай за мяне скажуць мае карціны. Захацелася наведаць яго майстэрню, паглядзець дзе нараджаюцца яго творы. Высветлілася, майстэрні няма, а творы пішуцца, як кажуць, з калена, у хатніх умовах. Такі вось дваццацігадовы творчы шлях удзельніка многіх выставаў, творы якога сталі ўласнасцю самого Міністэрства культуры (карціна "Поступ") ды шмат якіх музеяў, дзяржустаноў. У Саюзе мастакоў Алесь актыўны сябра патрыятычнай суполкі "Пагоня". У Менскім культурна-асветніцкім клубе "Спадчына", паводле словаў яго старшыні Анатоля Белага, з'яўляецца "рухавіком ідэй і здзяйсненняў". Уганараваны камітэтам ушанавання вышэйшай узнагародай: ордэнам "Гонар Айчыны". На адным з пасяджэнняў клуба прысвечанага ушанаванню памяці свайго спадчынца Міколы Ермаловіча, у гонар яго Алесем была прэзентавана карціна-партрэт. На ёй славуты гісторык, публіцыст, паэт – Ікар, які ўзнёсся над старажытным замкам, касцёлам і царквой, над святой Ліцвінскай зямлёй, што паўстала ўзвышкам пакрытым спаўзаючымі штандарамі даўнішніх акупацыйных дзяржаў. Рукікрылы Ікара рассякаюць цемру, вызваляючы ад яе святло, што стварае ўражанне крыжа. Спалучэнне белага з чырвоным нагадвае сцяг Хрыста, альбо наш нацыянальны сімвал. Самараскрыжаванне дзеля Святла. Прарыў да яго ахвяруючы сабой – ёсць прарыў праўдзівай айчыннай гісторыі, здзейсненай вядомай постаццю перад цемрашальствам. Выдатны сюжэт, адпаведны каларыт фарбаў, духоўны жанр стварае невыказнае адчуванне. Перад такім творам міжволі здымеш капялюш. Гэта кар-ціна была чамусці ў гэтым годзе адхілена ад паказу на выставе, прысвечанай Дню волі.



Алесь Цыркуноў. Міхал Клеафанс Агінскі.



Алесь Цыркуноў. Мікола Ермаловіч.

Альбо арганізатары пабаяліся некага ўгнявіць, ці мо не дысягнулі ўзроўню ўспрыймання яе сімвалізму.

У музеі ў Старых Дарогах, што на вуліцы Садовай, заснаваным Анатолем Белым, нельга не супыніцца ля яго падарунка – партрэта Сокала-Кутылоўскага. Уражвае кампазіцыя колеру, пастава героя-абаронца БНР, камандзіра першага яе войскавога злучэння, гатовага ў любую хвіліну кінуцца ў няроўны бой. Адзінота і рамантызм на твары, веданне перад якім молахам ён паўстае з аголенай шабляй.

Алесь Цыркуноў чуйны да роднай мовы, спрабуе сябе на літаратурным палетку. Часам можна сустрэць яго артыкулы ў перыядычным друку. Чытаючы яго апавяданне "Пакаянне" ў альманаху "Скрыжалі спадчыны", што выдае ўжо згаданы Менскі клуб, заўважыш там шмат самабытных незацяганых слоўкаў: "балесны", "ціхмяны", "сушаныя крышні", "прышлякі-таўстасумы", "вялебная партнаменклатура". Зачаруешся яго ўменнем даступна, лёгка весці расповед пра простую вясковую жанчыну.

Графічнае ўвасабленне па распрацоўках Анатоля Белага паводле прац Міколы Ермаловіча "Радавод Полацкіх і Вялікіх Літоўскіх (Беларускіх) князёў – ёсць важкі ўнёсак у скарбонку гістарычнай спадчыны нашага краю. Ён імкнецца ўвекавечыць памяць Фларыяна Даноўскага малавядомага паплечніка Кастуся Каліноўскага. Бачачы, што ніхто не бярэцца задарма гэта рабіць, міжволі стаў скульптарам. Крапатліва, крупінка за крупінкай аддзяляе лішняе ад гранітнай глыбы, вяртае з забыцця яшчэ аднаго героя паўстання 1863 года.

Тэма Беларусі – асноўная тэма ў яго творчасці. У шмат якіх творах яна раскрываецца метадам экспрэсіянізму, праз духоўнасць, увядзенне ў сюжэт выбітных асоб. Напрыклад, карціна "Плашчаніца". Праз біблейскі сюжэт Алесь паказаў фактычна нашу Краіну-пакутніцу. Гэтую асацыяцыю узмацняе кампазіцыя з Хрыстом вядомых гістарычных асоб: Ф. Скарына, Е. Полацкая, С. Слуцкая, К. Тураўскі... Кроў на плашчаніцы не проста кроў, пралітая Хрыстом. Барацьбітам, патрыётам Бацькаўшчыны ўсіх гадоў яна нагадае многае. Вызваленне Хрыста, дапамога ўваскрэшанню. Зусім іншы сюжэт з Хрыстом можна назіраць у другога мастака заўчасна памерлага Генрыха Ціхановіча "Веру, уваскрэснеш!" дзе Хрыста гоняць на Галгофу старажытыя воіны, энкэвэдысты, фашысты... замыкаюць падобныя на сучасных амапаўцаў. Тут – ворагі. У Цыркунова – абаронцы, лекары.

Наведваючы аднойчы ў лёхах касцёла святых Алены і Сымона выставу твораў Цыркунова, я быў уражаны іх глыбокім сэнсам, духоўнасцю, шырокім спектрам асацыяцый. Позні час, у зале – ні душы, што дазволіла цалкам аддацца ўласным пачуццям, свабоднаму ўспрыманню яго шэдэўраў: "Хрост ліцвінаў", "Поступ", "Плашчаніца", "Клятае месца"... Вось стаю ля карціны "Блаславенне". Перада мной памерлая бабулька. Востры нос падкрэслівае былую гордасць, нязломнасць душы памерлай. Дагарае свечка. Яна не заўчасніца, яна проста аджыла сваё, як і ўсё жывое аджывае, бы тая свечка. Па другі бок нябожчыцы – пара маладых, але маладая ў падвянечным уборы выглядае, як бы яна не яна, а яе здань уся бялюткая, як вытканая з туману. Жывыя кветкі... Нам гледачам, пабочным сведкам гэтай трагічнай з'явы мастак даў магчымасць убачыць не целы жывых у пакутах ад гэтай трагедыі, а іх маладыя душы, мроі. Душы заўжды маладыя. Цела аджыло, а душа побач з яе тленным целам, таму і вобраз яго на карціне рэальны. Прысутнасць душы памерлай ля жывога ўдаўца, пачуваючага сябе маладым. Ён з ёй, як і яна з ім... Самі сабой нагарнуліся слёзы. Я ведаю, аўтар укладаў у сюжэт кампазіцы іншы сэнс, але яна мне ўявілася пасвойму. А ў гэтым і ёсць геніяльнасць творцы – даць магчымасць гледачу ўспрыняць твор у залежнасці ад уласнага ўзроўню ўяўлення. Тры словы тады я запісаў у кнізе водгукаў:"Дружа, ты геній!"

*Мікола Лавіцкі.*

## *Валеры Барташэвіч*

* * *

Не трэба лепшага
для гальцьбы, паверце-
Гарэлка ж зранку п'ецца як вада,
І за яе любы гатоў памерці,
Вось толькі
Беларусь маю шкада.

Шкада дуброў,
асвечаных вякамі,
Што злеглі ад сякеры без пары.
Шкада курганаў,
дзе пад шэры камень
Ляглі навек яе багатыры.

Шкада азёр,
што паглынае багна,
Зарослых чаратамі з лазняком,
Якія перад сконам гэтак прагна
П'юць вешнюю ваду з аміяком.

Шкада гадамі
тручаных рачулак,
У знямозе замарудзіўшых
свой бег,
Шукаючы
ў чужых краях прытулак,
Каб завяршыць
у высылцы свой век.

Знявечаную ў быльніку з асотам,
Шкада раллю,
карміўшую дюдзей,
А сёння нам чарнобыльскія соткі
Засеяў
чорнай смерцю "дабрадзей".

Спіць Беларусь
і не адно стагоддзе,
Ці ўдасца абудзіцца ёй ад сну?
Няма ратунку
ў сне ад ліхагоддзя
Пакуль не прычакаем мы вясну!

### Пушча

Туман ад раніцы ахутвае бярозы,
І пахне соладка
на досьвітку чабор,
А кропелькі расы, нібыта слёзы,
Якімі плача
па вяках мінулых бор.

Калісьці лес перапаўняла рэха
Ад паляўнічых
княжацкіх дружын,
Русалкі на Купалле
з звонкім смехам
Шукалі кветку-папараць у ім.

Вядзьмак-лясун
наводзіў зводу з пушчы
На заблукаўшых
ў гушчары людзей,
І зніч святой надзеі неўмірушчай
Ім не даваў загінуць у бядзе.

А ў поўнач ваўкалак
скідаў аўчыну –
Ператураўся ў маладога ваяра,
І на спатканне
да яго княжна-дзяўчына
Выходзіла з замчыскага двара...

Мінула ўсё, у прочкі адляцела,
Як быццам казачны
рассеяўся дурман,
Ў дубравах рэха
змоўкла, анямела,
Ды толькі зніч надзеі
свеціць нам...

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5. 08. 2002 г.
Наклад 2400 асобнікаў. Замова № 1530.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.